**BIELARUS**

Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.
Subscription $ 12.00 yearly.

**„БЕЛАРУС“** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 12.00 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## Я. КОЛАС — АХВЯРА РЭПРЭСІЯЎ

**(Заканчэньне з 2-ой бач.)**

гаспадарлівых дзяцей нават дзедаўскае ў пашане, хоць усё зроблена пасвойму.

**Сьвежы гістарычны „ветрык“**

У пачатку 50-ых гадоў я заняўся вывучэньнем пачатковага этапу станаўленьня беларускай мастацкай прозы. Чыста навуковая зацікаўленасьць надзвычай важнай праблемай спалучалася ў мяне зь неабходнасьцю спакойна і аб'ектыўна разабрацца ў складаных і супярэчлівых літаратурных падзеях 20-х-30-х гадоў. У гэтым адчувалася патрабаваньне часу, бо ў нашым грамадзкім жыцьці павеяла сьвежым ветрыкам гістарычных рашэньняў XX зьезду КПСС (1956 г. -- рэд. „Б-са“). Скупыя друкаваныя і архіўныя крыніцы прыйшлося дапаўняць гутаркамі са старэйшымі пісьменьнікамі. Хацелася пагаварыць і зь Якубам Коласам, пачуць яго думку пра дзейнасьць некаторых крытыкаў, і ў прыватнасьці Бэндэ.

Чаму іменна Бэндэ? Як дасьледчык Бэндэ для мяне быў заўсёды пустым месцам, мерцьвяком яшчэ пры жыцьці, аднак у свой час гэты чалавек нарабіў нямала клопату... пісьменьнікам. Высьвятліць яго ролю — азначала раскрыць многія спружыны тагачаснага літаратурнага жыцьця.

**Л. Бэндэ праператрус у кватэры Коласа**

У 1948 годзе я, В. Вольскі, Л. Бэндэ і цёця Ўладзя (жонка Янкі Купалы) па заданьню Інстытуту мовы, літаратуры і мастацтва АН БССР вывучалі беларускія фонды віленскіх архіваў. Аднойчы Бэндэ запрасіў мяне ў свой пакой і амаль цэлую ноч чытаў урыўкі з дасьледаваньня пра Коласа.

— Ці можна апублікаваць гэту працу? — запытаў Бэндэ.

— Само собой зразумела, — адказаў я. — За чым астаноўка?

— Ды стары ўпарціцца, ня хоча, каб яго залішне хвалілі.

— Мо іншыя гэтаму прычыны?

— Ды не, я да Коласа заўсёды адносіўся зь любоўю і павагай. У свой час Марыя Дзьмітраўна перадала мне пісьмы Канстанціна Міхайлавіча, на якія часта спасылаюся.

— Казка для маленькіх дзяцей і вялікіх дурняў, — сказаў я са злосьцю. — Хутчэй паверу, што вось зараз праваліцца зямля і мы разам паляцім у пекла, чым у тое, што такая жанчына, як Марыя Дзьмітраўна, магла перадаць вам пісьмы мужа. Верагодней, што вы ўзялі гэтыя пісьмы ў час вобыску ў 1925 годзе.

— Пры вобыску кватэры Коласа ў 1925 годзе прысутнічаў ня я. — І Бэндэ так падрабязна і маляўніча расказаў, як той другі з уменьнем і прафэсійным майстэрствам выстукаваў сьцены, узьнімаў масьніцы, што трэба было ўсё гэта бачыць самому.

**Коласаў пакаянны ліст**

Размова наша набыла такі адкрыты характар, што я ня стрымаўся:

— Лука Апанасавіч, мне гаварылі, што ў 1930 годзе, калі Колас пісаў свой пакаянны ліст, за яго сьпіной стаялі вы.

— Скажэце, хто вам сказаў? — зьвярнуўся да мяне Бэндэ. — Я наб'ю яму морду.

— Нічога вы ня зробіце, — заўважыў я. — Мне сказаў аўтарытэтны чалавек, які да вайны працаваў у Акадэміі. Калі вы вельмі будзеце дамагацца, то ў Менску я вас зь ім пазнаёмлю.

Пасьля гэтага Бэндэ ня раз прыяжджаў у Менск і да выхаду ў сьвет маёй кнігі „Беларуская савецкая проза“ афіцыйных узаемаадносін са мной не парываў, аднак віленскую размову ня ўспамінаў. Мне яго маўчаньне сьветчыла пра многае“. (209)




**Нагрудны юбілейны значок, спраектаваны й выкананы Ірэнай Рагалевіч-Дутко.**

### „ІДЭЙНЫЯ ЗРЫВЫ“ КУПАЛЫ Й КОЛАСА

„Вітаючы пачатак вялікага абнаўленьня жыцьця (г. зн. савецкую ўладу — рэд. „Б-са“), Купала і Колас, аднак, ня мелі тады яснага ўяўленьня аб сацыяльным зьмесьце рэвалюцыі, яе сацыялістычным характары і гістарычных мэтах. Застаючыся на пазыцыях дэмакратычнага сьветапогляду зь яго непазьбежнымі ілюзіямі, яны часам аказаліся дэзарыентаванымі, не знаходзілі правільнага адказу на вострыя пытаньні часу, допускалі ў сваёй творчасьці ідэйныя зрывы“. — Акадэмія Навук БССР, **Гісторыя беларускай савецкай літаратуры,** том I, Мінск, 1965. б. 10.

### НОВЫ АТЭІСТЫЧНЫ ЦЭНТАР У ВІЛЬНІ

Як падала газэта „Советская Литва“ (29.IX.82), у Вільні створаны зь ініцыятывы ЦК КПСС Інстытут Навуковага Атэізму. Ён будзе каардынаваць атэістычныя дасьледаваньні ня толькі ў Ліцьве, але таксама ў Лацьвіі, Эстоніі й Беларусі.

***

**Пра польска-беларускія дачыненьні** 1920-ых гадоў даволі шмат пішацца ў доктарскай дысэртацыі Тэафіля Пётркевіча „Украінскае пытаньне ў Польшчы ў канцэпцыях пілсудчыны, 1926-1930 г.г.“, што выйшла ў выдавецтве Варшаўскага Ўнівэрсытэту ў 1981 годзе. Рэцэнзія Ўладзімера Банчкоўскага на гэтую працу зьмешчаная ў „Зэшытах Гістарычных“ (сшытак 59-ты, 1982, бб. 221-229), выдаваных польскім Літаратурным Інстытутам у Парыжы.

### СЬВІНЬНІ ПАД ДУБАМ
**(Трохі пад Крылова)**

На беларускіх жалудох
Даў спосаб сьвіньням Бог,
Тутэйшым сьвіньням, беларускім -
Ім гэта байка для закускі.
Жыруюць тут, растуць іх трыбухі,
I адкладаецца ў іх сала.
Сьвіньня-ж сьвіньнёю быць не перастала,
I сьвінскія захованы грахі.
Наеліся тут дзёдзькі жалудоў,
Сваіх прыдбалі парасят
I рохкаюць на той-жа сьвінскі лад,
Палёгшы між дубоў.
— Скажы, кума: ну, як нам быць?
Дзе нам дзяцей сваіх вучыць?
I як ім рохкаць тут:
Ці па-тутэйшаму, ці не?
Скажы, імосьтанька, ты мне,
Бо ўсё-ж нам родны гэты кут —
I гадаваліся мы тут,
Вунь там і выган наш і груд,
Балоты тыя і лясы...
— Кума!
Да ў іх на грош красы
Няма!
I што трывожыцца дарма?
Мне прыкра чуць такія галасы!
Я факультэт акончыла сама.
Ня менш, як у карыце,
Сваім лычом капалася ў санскрыце,
I добра знаюся я ў мовах
I ў далікатных розных словах.
Пакінь-жа, мілая, сьмяшыць людзей:
Ну хто адважыцца псаваць сваіх дзяцей?
Бо як-жа гаманяць тутэйшыя дубы?
Іх голас брыдкі і грубы
I не ачэсаны, слабы,
Не мілагучны,
Прыдуманы і штучны,
Ні гібкасьці, ні сілы,
Паэзіі і музыкі ні-ні,
Убоства, дзе ні павярні...
О, Божа барані!
Мяне ён нудзіць, рве мне жылы!
Як ён агідны! Як нямілы!
А гэта „дзе“, гэта „це“
Мне болем адклікаецца ў хвасьце.
I родны кут, ды вось ня мой,
Для віду пойдзеш зь ім на шлюб,
А наш „кумір“ — Крылоўскі дуб.
Я — маці, мілая, і дзетак хоць зьняволю,
А па-тутэйшаму і рохкнуць не пазволю!

1926 г.

**Якуб Колас**

# ПРАМОВА АЛЯКСЕЯ КАРПЮКА

**Ад Рэдакцыі:** На Захад трапіў нядаўна выдадзены ў Польшчы другі сшытак самвыдавецкага неперыядычнага выданьня „Беларускія Дакумэнты“, датаваны лістападам 1981 году. Зьмест другога сшытка апісаны ў папярэднім нумары „Беларуса“. У другім сшытку „Беларускіх Дакумэнтаў“ зьмешчаная стэнаграма прамовы беларускага савецкага пісьменьніка Аляксея Карпюка на пятым зьезьдзе пісьменьнікаў Беларусі ,сказаная 13-га травеня 1966 году.

Ніжэй зьмяшчаем тэкст гэтае прамовы з такой-жа заўвагай, зь якой яна зьмешчаная і ў „Беларускіх Дакумэнтах“: „Тэкст выступленьня публікуецца бяз згоды й ведама аўтара“. Падзагалоўкі дадзеныя рэдакцыяй „Беларуса“.

**„Пісьменьніку, мабыць, дастаецца найбольш“**

Хутка сьвяткавацьмем 50-годзьдзе нашай улады. Хачу напомніць Леніна, калі ён заклікаў на юбілеях быць дзелавітым, менш ужываць парадныя траскатні, менш кічыцца тым, што дасягнулі, больш гаварыць пра недаробленае. Перамогі й сьвяты людзі выкрасаюць з сэрцаў у цяжкай барацьбе.

Зроблена многа. У нядзелю нават у нашым Гродна кожны трэйці юнак фланіруе па вуліцы з транзыстарам. Амаль у кожнай кватэры — тэлевізар, ён прымае па трох каналах: зь Мінску, зь Вільні й Варшавы. Да Ташкенту ў мінулым годзе я дабраўся за шэсьць гадзін... Аднак і сёньня яшчэ часам, каб пражыць чэсна й сумленна адзін дзень і гаварыць усім праўду, то душэўных сілаў дабыць трэба куды болей, чым трэба касманаўту зьлётаць у космас.

Пісьменьніку, мабыць, дастаецца найбольш.

Калі фізык ці хімік зрабіў адкрыцьцё, то ўсе ягоныя калегі з Савецкага Саюзу адразу бяруць ноўшаства на ўзбраеньне і наступная думка разьвіваецца ўжо з улікам гэтага дасягненьня. Калі-ж пісьменьнік напісаў рэч, якую дагэтуль яшчэ ня пісалі, то пакуль дойдзе яна да народу, аўтару часамі трэба патраціць куды болей сілы, чым для напісаньня.

Нікому ня прыйдзе і ў галаву зьбіраць хворых і дазволіць ім вырашаць, як урачам лячыць. Возьмем інжынераў-электрыкаў: ня зьбіраюць-жа жыхароў камунальных кватэр, каб тыя вырашалі, якой канструкцыі і зь якога матар'ялу мае быць кацёл электрастанцыі. У адносінах да пісьменьніка такія выпадкі — нармальныя.

Для сьмеху. Адзін архітэктар сказаў: гэ, чаго ныеш? Каб пакрытыкаваць пісьменьніка, трэба, прынамсі, прачытаць кніжку. Мяне-ж можна разьбіць, глянуўшы на пабудову нават праз вакно машыны!

Калі памёр Леў Мікалаевіч, сталічныя газэты зьмясьцілі артыкул: „Падумаеш, Талстой! Пакладзі ў лінію яго кніжкі, яны дасягнуць адно Масквы; а пакладзі ў радочак тамы мадам Вярбіцкай, то лінія пойдзе ад Пецярбурга да Ўладзівастоку і назад да Масквы!..“ Пры ўсім нашым росьце, нажаль, і цяпер можна назіраць такія погляды на літаратурныя дасягненьні.

**Адмаўляецца права паказваць адмоўнае**

Вакол зямлі паляцяць два сабачкі, то некалькі дзён пра іх будуць пісаць усе газэты СССР (хоць праз месяц пра выпадак грунтоўна забудуць), а калі-б у нас зьявіліся новыя „Людзі на балоце“ (раман Івана Мележа — рэд. „Б-са“), то ў „ЛіМе“ зьмясьцілі-б невялікую рэцэнзію і толькі. Я ня супраць сабачак. Я за тое, каб ажыятаж вакол іх не рабіўся за кошт дасягненьняў сумленьня й душы народу.

Ствараецца ненармальнае палажэньне на нашым фроньце. Мабыць рэдка калі аж так праяўлялася адміністраваньне літаратарамі й літаратурай. Часамі адмаўляецца права аўтару на паказ заганных бакоў нашага жыцьця.

Калі радар „вядзе“ самалёт праціўніка, у яго апаратуры ўлічваецца тэмпэратура паветра, хуткасьць самалёту, паталок і яшчэ сотню дадзеных; інакш, убачаны вораг візуальна не перакрыецца ў прыцэле зэніткі зь ценьню на экране і са стрэлу атрымаецца фіга з макам. Калі ты, апісваючы гэроя, ня возьмеш пад увагу ўсе моманты з жыцьця народу, дык гэрой твой не перакрыецца ў сэрцы чытача.

Толькі раўнадушны чалавек, якому не дарагія нашы заваяваньні, што дасталіся так дарагім коштам, можа праходзіць міма адмоўных бакоў нашага жыцьця, ня ўзьнімаць іх у творах.

Ці-ж у нашай краіне так усё ўжо гладка?

На Гродзеншчыне цяпер усё ў квецені яблынь, груш і сьліў. Ці магу я пагадзіцца з тым, што восеньню мы будзем фруктамі карміць жывёлу, а пасьля Новага Году — сьлівы й памідоры есьці баўгарскія?

За апошнія гады ўпаў у цане наш рубель. Ці магу я памірыцца, што даём мы яму падаць, што ніхто не гаворыць пра гэта?

Крытыкуючы асобныя творы, чаму мы не асуджаем і тыя ўмовы, якія даводзяць аўтараў да крайнасьці? „Ложь — религия слабых“ — сказаў Горкі. Пра гэта ведалі і раней (між іншым, яшчэ 100 гадоў таму назад Мікалай I, пабыўшы на прэм'еры „Рэвізора“, сабраў назаўтра сваіх чыноўнікаў і загадаў: усім паглядзець спэктакль!). Памятаючы гэта, глянем і мы праўдзе ў вочы: мабыць, даўно ў нас ня было такога палажэньня, каб рэдакцыі вярталі аўтарам столькі раманаў, аповесьцяў, апавяданьняў, вершаў і паэм.

Яшчэ некалькі гадоў таму назад мы перажывалі буйную хвалю анэкдотаў: армянскіх, маскоўскіх, разанскіх. Ішло як-бы спаборніцтва паміж гарадамі, рэспублікамі. Па гэтаму пытаньню былі нават рашэньні партыйных органаў, але гэта толькі выклікала новыя іх хвалі. Анэкдоты апалі самі па сабе, калі ня стала прычын, якія іх спараджалі.

Цяпер якраз перажываем хвалю так званага самвыдату. Ад Гродна да Ўладзівастоку, ад Архангельску да Сухумі ходзяць па краіне рукапісы аўтараў. Людзі іх зачытваюць да дзірак, ня лічацца з часам, перапісваюць нанова, перадаюць далей. Пераважная большасьць гэтага самвыдату — таленавітыя творы нашых вядомых пісьменьнікаў і праз год-два бачыш іх у друку. Ці да твару нам гэтая зьява? I ніякімі забароненьнямі яе ня спыніш, калі ня зьменіш атмасфэру ў рэдакцыях, якая зьяву спараджае.

Ой, яшчэ ня ўсё ў нас гладка.

**Бацькі й дзеці**

Нядаўна я прачытаў у польскай газэце такую сабе бяскрыўдную інфармацыю. На мітынгу ў нейкім горадзе ў Эгіпце выступаў Насэр. Як бацька, як чалавек, ён паскардзіўся 40-тысячнаму натоўпу, што яго дачка праваліла ўступны экзамен у Каірскі Ўнівэрсытэт. Я ведаю добры дзесятак дачок і сыноў некаторых адказных работнікаў, якія ў школе вучыліся на троечкі; калі-ж дайшло да экзаменаў у Гродзенскі ВУЗ (Вышэйшая навучальная ўстанова — рэд. „Б-са“), пры страшэнным конкурсе яны раптам дружна атрымалі адны пяцёркі. А гэта адбіваецца ў народу. Зусім тут не хачу выстаўляць у дрэнным сьвятле нашых кіраўнікоў. Мне, як савецкаму патрыёту, камуністу, вельмі крыўдна: будуем Асуан, а ў нечым прынцыповым варта і самым павучыцца ў Арабаў.

Мне моладзь падабаецца. Нават зь ейнымі танцамі ,музыкай, прычоскмі й модамі. Шкадую, што не магу і я такіх насіць. Пры сустрэчах з моладзьдзю надта хутка знаходжу агульную мову. Я, у мінулым заядлы камсамолец-падпольшчык ,радуюся, што і ў сёньняшнім камсамольскім племені жывы інстынкт да дзеяньня. Камсамольцы робяць шмат для краіны і ідэі. I зь вялікай любові да іх не магу мірыцца са зьявамі, якія часамі дапускаем сярод нашых дзяцей.

**Кар'ерысты, падхалімы й даношчыкі**

Ці не ў камсамоле побач з гэроямі нараджаюцца і асобы без сваёй думкі, угоднікі, кар'ерысты, падхалімы і людзі — чего изволите? Могуць мне сказаць, што такіх мала. Гэта не апраўданьне. Прырода кар'ерыста такая, што ён адзін можа зьнявечыць намаганьні тысяч гэрояў. Нажаль, вопыт — не залаты гадзіньнік, які ад бацькі пераходзіць да сына. I недастаткова яшчэ ўсвоіць лёзунгі й вывады камуністычнай навукі, іх трэба прапусьціць праз свае жылы й кроў. Чаму-ж часамі ствараем для моладзі інкубатары, а ня ўмовы, дзе-б яны вучыліся дабываць вялікую праўду жыцьця ў мазалях, барацьбе, як дабывалі яе мы самі?!

У нас чамусьці ня прынята выступаць супроць такой катэгорыі тыпаў, як кар'ерыст, угоднік. Кажуць, паясьненьня слова „даношчык“ няма нават у слоўніках. А даношчыкі існуюць у нас мо ня толькі ў выдавецтве „Беларусь“. Між іншым, аднаго там я назваў гэтым ганебным тэрмінам. Назваў спэцыяльна пры сьветках, каб ён меў магчымасьць падаць мяне ў суд ці на партбюро. Дудкі, нікуды не падаў. I ня выклікаў мяне на дуэль. Ён толькі шчасьліва ўсьміхнуўся, быццам яму пашчыкаталі за вушкам.

**Пакалечаныя культам людзі**

Чамусьці прытупіліся, ой, прытупіліся ў нас паняцьці чэсьці, гонару, парадачнасьці. Да таго часамі назіраецца падзеньне маральных крытэрыяў, што месцамі бярэ верх мяшчанскае разважаньне, якое нічога агульнага ня мае з марксызмам. Іншы табе будзе хоць цэлы дзень слухаць яўнага балбатуна, які на трыбуне таўчэ ваду ў ступе, і зь дзіўным ірвеньнем абзаве таго чалавека наіўным, хто кажа, што думае.

Пералічваючы балячкі нашы, мы ня можам ня бачыць, як некаторых людзей пакалечыў культ. Ад таго, што чалавек такі век свой адно ведаў падпарадкавацца загадам зьверху, у яго, беднага, атрафіравалася здольнасьць самастойнага мысьленьня, зьнікла прыродная чалавечая рыса ня ісьці наперакор свайму сумленьню. Загадаюць яму сеяць кукурузу на нашых пяскох замест лубіну — прымусіць усіх сеяць кукурузу. Скажуць заараць лугі, канюшыну — заарэ і іх. Прагаласаваць за два аблвыканкомы? Калі ласка. Яшчэ выступіць у газэце. Праз два гады выканкомы аб'яднаюць, ён напіша другое і зноў падмацуе Ленінам. I не пачырванее перад людзьмі, якіх дурыў, зь дзіўнай беспасярэднасьцю скажа ў апраўданьне:

— Партыя тады ставіла адны задачы, а цяпер — другія!..

А тое, што партыя яму нагадвала яшчэ і думаць, да таго быццамбы не адносіцца.

Аднойчы я назіраў такога чалавека, калі ён даваў загад свайму інструктару напісаць даклад. Не саромеючыся мяне, ён яшчэ дадаў:

— Кунцэвіч, ты толькі добра яго напішы, бо з дрэнным прымушу выступіць самога!

Хіба можна сабе ўявіць Леніна, каб яму хтосьці пісаў даклады?

Разумею, з таго часу краіна вырасла, сакратару ЦК для дакладу, мабыць, трэба выкарыстаць паслугу і не аднаго інструктара. Але-ж чаму, чаму, чаму мода гэтая практыкуецца зьверху да раённага цэнтру? Гэтак і там часамі выступаюць з разносамі пісьменьніка, не прачытаўшы ніводнага яго твору. Гэтак „пішуць“ артыкулы ў газэты, здараецца, нават — дысэртацыі. Ня дзіва, што людзям такія артыкулы і дакладчыкі набілі аскоміну, аўтарытэт кіраўніка ўпаў. А з чаго яму быць, з аднае цікавасьці да футболу? Ня можа яго быць у такога кіраўніка, ня можа, нават калі цікавасьць гэтая шчырая і разьбіраецца ён у ігры футбольных каманд выдатна.

На долю такіх людзей выпаў нялёгкі час. Па-чалавечы можам іх і пашкадаваць. Толькі-ж яны маюць

**(Працяг на 4-ай бач.)**

# АРХІТЭКТУРНАЕ НІЗКАПАКЛОНСТВА

Беластоцкая газэта „Ніва" ў нумары 25-ым за 22 жнівеня сёлета паведаміла пра „заснаваньне ў Беластоку новага храму сьв. Духа". Вялікі ілюстраваны рэпартаж пра акт заснаваньня пачынаецца гэткімі словамі: „Гэтага дня здаўна, бо цэлыя дзесяцігодзьдзі, чакалі праваслаўныя гораду Беластоку, чакала праваслаўная Беластоцка-Гданьская епархія, чакала Праваслаўе ўсяе Польшчы".



Гэтак мае выглядаць царква Сьв. Духа ў Беластоку („Ніва" № 25, 22. VIII. 82).




Гэтак выглядаюць цэрквы на Палесьсі (з кнігі Ю. Якімовіча „Драўлянае дойлідзтва беларускага Палесься. XVII-XIX ст.ст., Менск, выд. „Навука і тэхніка", 1978).

Добра, што праваслаўныя Беларусы Польшчы дачакаліся гэткае важнае падзеі, але глыбака засмучае й турбуе факт, што дзесяцігодзьдзі чаканьня й шуканьня не прывялі праваслаўных Беларусаў Беласточчыны да свайго архітэктурнага стылю, а завялі іх аж у сярэдзіну самое Маскоўшчыны. Ці гэтае пакланеньне „старэйшаму брату" мае быць цаной за дазвол пабудаваць беларускую праваслаўную царкву ў Беластоку? І чаму-ж гэта беларускае Праваслаўе ў Польшчы павінна замадоўвацца праз адрачэньне ад свайго? — Спачатку ад свае мовы, а цяпер і ад свае архітэктурнае спадчыны.

Беларускае Палесьсе, у рэгіён якога ўваходзіць і Беласточчына, выпрацавала праз стагодзьдзі цудоўныя самабытныя мастацкія традыцыі, у тым ліку і свой прыгожы апрычоны стыль царкоўнае архітэктуры. Ёсьць цімалая літаратура на гэтую тэму, у тым ліку грунтоўная манаграфія Ю. А. Якімовіча „Драўлянае дойлідзтва беларускага Палесься. XVII-XIX ст.ст." (Менск, АН БССР, Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі й фалькльёру, выд. „Навука і тэхніка", 1978 г.). Паглядзеце, як выглядаюць купалы палескіх цэркваў!

Дык чаму-ж і надалей ня трымацца свайго, пашто жабраваць па суседзях? Пашто замацоўваць псыхалёгію правінцыялізму, якая перашкаджае бараніць ды разьвіваць іншыя дзялянкі нацыянальнае культуры? Чыім інтарэсам служыць гэткае духовае рабства?



**Купалы царквы сьв. Васіля Блажэннага ў Маскве — сымбаль расейскага царкоўна-архітэктурнага стылю.**

Чужая архітэртура будзе ўвасабляць і чужую духоўнасьць і ня станецца прыцягальнай сілай для Праваслаўя ў Польшчы, асабліва ў дачыненьні да моладзі, якая паступова паглыбляе сьведамасьць свае нацыянальнае апрычонасьці. Чужая архітэктура ня прыцягне таксама й фінансавага падтрыманьня гэтага праекту ад суродзічаў з краінаў Захаду, якія маглі-б шмат спрычыніцца да пабудовы царквы сьв. Духа ў Беластоку.

У „Ніве" побач з рысункам запланаванае царквы сьв. Духа ў Беластоку на першай старонцы газэты, быў зьмешчаны таксама верш Янкі Купалы „А хто там ідзе?", які канчаецца гэткімі словамі:

А чаго-ж чаго захацелася ім,
Пагарджаным век, ім, сьляпым, глухім?
Людзьмі звацца.

Архітэктурны праект царквы сьв. Духа ў Беластоку, як выглядае, выпрацоўваўся асобамі „сьляпымі" й „глухімі" да культурнае спадчыны тых, каму гэты храм павінен служыць. Пабудова гэтае царквы ў чужым пазычаным стылі, на жаль, не паспрыяе сканчэньню з выявамі „пагарджаньня", супраць якіх пратэставаў Янка Купала ды зь якімі яшчэ даводзіцца сустракацца.

„Людзьмі звацца" ў поўным сэнсе можна толькі тады, калі жыць сваім, а не пазычаным.

Людзьмі звацца — свайго трымацца.

**Аркадзь Будзіч**

# 60-ГОДЗЬДЗЕ ЯНКІ МІХАЛЮКА

З нагоды 60-ых угодкаў ад нараджэньня сп. Янкі Міхалюка, шматгадовага беларускага грамадзкага дзеяча й старшыні Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі, быў наладжаны ў суботу 23 кастрычніка банкет у залі дому імя сьв. Кірылы Тураўскага. На сьвяткаваньне прыйшлі прыяцелі сп-тва Міхалюкоў і запрошаныя госьці, прадстаўнікі розных нацыянальнасьцяў.

Банкет адчыніў заступнік старшыні ЗБВБ сп. А. Зданковіч, падкрэсьліўшы ў сваім прывітальным слове важнасьць гэткіх угодкаў у жыцьці чалавека. Дажыць да 60-ых угодкаў нялёгка, калі жыцьцё спалучыць зь лёсам свайго народу. Прамоўца адзначыў нязвычайную энэргічнасьць і творчы дух Юбіляра, уласьцівы яму ўва ўсіх дзялянках ягонага шырокага поля дзеяньня. З прывітальным словам выступіў Мітрафорны Пратаярэй а. А. Надсан. Айцец Аляксандар адзначыў прыкладнасьць сям'і Міхалюкоў, заўсёдную дружную гатовасьць Янкі й Лёлі да ўдзелу ў грамадзкіх патрэбах, падзякаваў ім за іхную дабрадзейнасьць у беларускім жыцьці. Падзяку й найлепшыя пажаданьні сп-тву Міхалюком выказаў праф. Джэймс Дынглі, старшыня Англа-Беларускага Таварыства. Далей прамаўляў сп. Гай Пікарда, былы сакратар Англа-Беларускага Таварыства. Прамоўца шчыра вітаў Юбіляра ды запрапанаваў прасьпяваць яму „Многае лета", што й было вельмі ахвоча выканана.

За выдатную арганізацыйную дзейнасьць сябры галоўнай управы ЗБВБ падарылі свайму старшыні настольны гадзіньнік. Шмат якія прыяцелі, што ня здолелі прыбыць на ўрачыстасьць, пераслалі пісьмовыя прывітаньні, а сярод іх і шасьцізвароткавы верш ад сп-тва Ю. Весялкоўскіх, зачытаны сп. А. Зданковічам:

Ціхім, мерным ходам
І так з кожным годам
Дайшоў Ты да сьвят —
Сваіх шэсьцьдзесят.
Капа год — нямала.
Усяляк бывала,
Больш цяжкой была,
Але плён дала.

Дзякуючы за ўсё і ўсім, Юбіляр выказаў шкадаваньне, што ня было на гэтым сьвяткаваньні сьв. пам. Біскупа Часлава Сіповіча, ад якога ён шмат чаго навучыўся й пераняў. Дасягненьні-ж на нацыянальна-грамадзкай ніве, пра якія тут гаварылі прамоўцы, сказаў сп. Міхалюк, гэта вынік супольных намаганьняў усіх тых, хто працуе й змагаецца за ідэал вольнай Беларусі. Юбіляр выказаў удзячнасьць сыном і нявесткам за іхную цесную лучнасьць з бацькамі, што дадае болш сілаў для грамадзкае працы.

Сп. Зданковіч, які вёў банкет, гаворачы пра ролю жанчыны й жонкі ў жыцьці вялікіх людзей, сказаў, што й наш Юбіляр мае выдатную памочніцу ў сваім жыцьці — жонку Лёлю. Сябры галоўнае ўправы ЗБВБ ужо даўно пераканаліся ў нязломнасьці духа й вытрывальсьці ў цяжкіх мамэнтах сп-ні Лёлі Міхалюк, у грамадзкай працавітасьці й гасьціннасьці якое мог пераканацца кожны, хто наведваў беларускія сустрэчы й вечары ў Лёндане або бываў у доме Міхалюкоў. За добрае сэрца й „залатыя рукі" Лёлі сябры галоўнае ўправы ЗБВБ падарылі ёй залатую бранзалетку.

Пры чарцы й смачнай закусцы, пад танцавальную музыку ды ў сяброўскіх гутарках прайшла рэшта гэтага ўрачыстага вечару.

**А. З.**



**Справа налева: Янка Міхалюк, ягоная жонка Лёля й А. Зданковіч.**

# З ЖЫЦЬЦЯ Ў АЎСТРАЛІІ

### ШМАТНАЦЫЯНАЛЬНАЯ АЎСТРАЛІЯ

Аўстралія сёньня — магчыма, самая шматнацыянальная краіна сьвету. Тут жывуць прадстаўнікі 140 нацыянальнасьцяў, якія дома, у школе ці на працы гутараць 90 мовамі.

Найбольш імігрантаў прыбыло па 2-ой Сусьветнай вайне, але тут ужо былі Кітайцы, Італьянцы, Грэкі... Іміграцыя трывае далей, і на сёньня 20% усяго жыхарства — гэта людзі роджаныя за межамі краіны. Факт гэты, бязумоўна, зрабіў уплыў на эканамічнае жыцьцё й палітыку Аўстраліі.

Спачатная палітыка асыміляцыі аўстралійскаму ўраду не ўдалася. Большыя групы пасяленцаў (прыкладам, Грэкаў у Мэльбурне налічваецца 200 тысячаў), асабліва тыя, што маюць яшчэ й падтрыманьне з боку ўрадаў краёў свайго паходжаньня, добра зарганізаваныя, моцна трымаюцца свае мовы й традыцыяў.

Палітычныя партыі, каб здабыць сабе ў выбарах галасы новых грамадзянаў, мусілі пайсьці на саступкі, у выніку чаго, прыкладам, у нашым штаце Новай Паўдзённай Валіі (найбольшай сваім жыхарствам) існуе радыястанцыя этнічных перадачаў, тэлевізійная этнічная станцыя, шмат якія арганізацыі згуртаваныя ў Этнічнай Радзе (Ethnic Council), працуе бюро перакладчыкаў, вядзецца курс ангельскае мовы для дарослых, некаторыя нацыянальныя мовы ўведзеныя ў дзяржаўныя школы. І ўсе гэтыя мерапрыемствы і ўстановы фінансуюцца фэдэральнымі або штатавымі ўрадамі.

### ВЫСТАЎКА Ў СЫДНЭІ

У Новай Паўдзённай Валіі штагоду на пачатку верасьня ладзіцца Карнавал, мэтай якога — узаемнае азнаямленьне грамадзтва штату з культурай, звычаямі й дасягненьнямі розных групаў, што насяляюць штат. Дзеля гэтага ладзяцца канцэрты, выстаўкі ды паказы рознага характару.

У рамках Карнавалу 82 была наладжаная выстаўка беларускага народнага мастацтва. Тут былі тканыя дзяружкі й настольнікі, розныя вышываныя рэчы, інкруставаныя саломкай шкатулкі, альбом беларускіх нацыянальных вузороў, апрацаваны сп. Ч. Будзькам, колькі кнігаў ды, ясна, карта Беларусі.

Выстаўка ўдалася, месца было люднае ў цэнтры гораду, і шмат наведвальнікаў любаваліся ня толькі экспанатамі, але й цікавіліся, дзе можна набыць вузоры ды іншыя рэчы, а адзін дзядуля, падыйшоўшы, паангельскую заявіў: „Прымацуйце гэты гальштук лепш, бо нават я хацеў пакваліцца на яго".

Сярод зацікаўленых аказаліся й прадстаўнікі Аўстралійскае Вышывальнае Гільдыі, якія папрасілі сп-ню А. Каранеўскую даць лекцыю аб беларускім народным мастацтве сяброўкам сыднэйскага аддзелу гэтай усеаўстралійскай арганізацыі.

Выстаўка трывала тыдзень. Экспанаты для яе пазычылі сп-ні О. Нарушэвіч, Л. Олрайт, Л. Грыцай, А. Каранеўская, сп-тва А. Гавеньчыкі, А. Качаны. За арганізацыю выстаўкі ўзялася А. Каранеўская. Але, як кажуць, адзін у полі не ваяка. Дык у справу ўлучыліся сп-ні О. Нарушэвіч, Л. Грыцай, Н. Лужынская, Марылька Каранеўская, сп-тва Мілеўскія, Качаны. І таму ўдача выстаўкі належыць усім ім, як і тым, хто не пашкадаваў сваіх дарагіх, часта памяткавых рэчаў, каб імі падзівіліся людзі.

### ТАВАРЫСКІ ВЕЧАР

9 кастрычніка ў залі Беларускага Грамадзка-Культурнага Клюбу адбыўся сяброўскі вечар. Надвор'е дык „дагадзіла": ліло, як зь вядра, хоць ты з хаты не выходзь. Знайшліся аднак адважныя — праўда, ня шмат, асобаў з дваццаць. І хоць плакалі хмары, на залі было весела. Частаваліся, гутарылі, ахвотнікі мелі нагоду патанцаваць. Прыемна праведзены вечар.

### ГОСЬЦЬ З АМЭРЫКІ

Госьці з ЗША ў нас бываюць ня часта, дык зь вялікай прыемнасьцяй даведаліся, што зьведаць Аўстралію прыехалі ў Сыднэй др. Грабінскі з жонкаю. Час у іх быў кароткі й расплянаваны, але госьці знайшлі вольны вечар, каб наведаць старога знаёмага сп. С. Нарушэвіча і пры гэтым спаткацца з групай сыднэйскіх Беларусаў.

Др. Грабінскі прывёз з сабою навейшыя весткі з Амэрыкі, расказаў пра свае родныя ваколіцы й бліжэй пазнаёміўся з нашым тут жыцьцём. Вечар аказаўся вельмі кароткі. Шкада, што госьці такія ў нас бываюць рэдка.

**А. К-я**

# З ЖЫЦЬЦЯ Ў ЛЁС АНДЖЭЛЕСЕ (ЗША)

### НА СЬВЯТКАВАНЬНІ Ў ВУГОРЦАЎ

На 26-ых угодках вугорскай рэвалюцыі 1956 г., што былі адзначаныя 24-га кастрычніка ў Лёс Анджэлесе ў парку імя Мак Артура, узялі ўдзел прадстаўнікі розных паняволеных Саветамі народаў, у тым ліку й Беларусы са сваім сьцягам. Рэзалюцыяй лёсанджэлескіх акруговых супэрвайзэраў дзень 24-га кастрычніка быў абвешчаны Вугорскім Днём. Ля помніка Вугорскім Змагаром за Свабоду, а таксама пры мэмарыяльным камені ў памяць Кардынала Міндсэнты было складзена шмат вянкоў і кветак. Вестка пра ўрачыстасьць была перададзеная мясцовым тэлябачаньнем.

**Н.**

## ЗВАРОТ РАДЫ БНР ДА МІТРАПАЛІТА АНДРЭЯ

Сямнаццатая сэсія Рады Беларускае Народнае Рэспублікі, што адбылася ў Нью Ёрку 27 лістапада сёлета, пастанавіла зьвярнуцца да Мітрапаліта Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы Андрэя з просьбай, каб ён спрычыніўся да забраньня са сьвецкіх судоў судовых справаў БАПЦ ды прывёў гэтым да ліквідацыі канфлікту ў БАПЦ і аздараўленьня атмасфэры ў беларускім грамадзтве.

### НАДЗВЫЧАЙНЫ АГУЛЬНЫ СХОД ПАРАХВІІ

У нядзелю 21-га лістапада сёлета ў Тароньце, пасьля сьв. Літургіі, адбыўся ў залі БРГЦ Надзвычайны Агульны Сход парахвіянаў парахвіі сьв. Кірылы Тураўскага, галоўна дзеля абмеркаваньня справаў зьвязаных з судом, які вядзе Мітр. Андрэй й ягоныя памочнікі супраць Арх. Мікалая.

Сход адчыніў малітвай Уладыка Мікалай. На сход прыйшло 50 сяброў парахвіі, што з упаўнаважаньнямі рэпрэзэнтавалі звыш 85% парахвіянаў. Старшынём сходу быў сп. В. Навіцкі, сакратаром — сп. Мікола Ганько.

Пасьля шырокага абмеркаваньня справаў, зьвязаных з судом і жыцьцём БАПЦ, сход прыняў дзьве рэзалюцыі, якія публікуюцца асобна.

Перавыбраная ўправа парахвіі ў наступным складзе: Б. Кірка, Мікола Ганько, Марыя Ганько, Н. Сільвановіч і Ул. Целеш. У Кантрольнай Камісіі засталіся: В. Касьцюкевіч, А. Жылік і Віктар Харэвіч.

Сход быў таксама паінфармаваны пра фінансавыя справы парахвіі й судовыя выдаткі. Цяпер яшчэ няведама, ці суд у Антарыё будзе й калі так, то калі, бо да гэтага часу вяліся слуханьні людзей з двух бакоў і вынік іх яшчэ няведамы.

Сход закончыўся малітвай.

**К.А.**

### ЗАКРЫВАЕЦЦА ПАРАХВІЯ БАПЦ

Зь верыгодных крыніцаў даведваемся, што Мітрап. БАПЦ Андрэй пазбавіў сьвятарскага сану й забараніў служыць кіраўнічаму парахвіі Сьвятой Тройцы ў Дораты, Нью Джэрзі (ЗША). Айцец В. Кендыш паведаміў тэлефанічна Мітраф. Прат. а. Карпу Стару, што ён пазбаўлены сану. Якія прычыны выклікалі забарону, няведама. Можна меркаваць, што адна з прычынаў — гэта адмова а. Карпа, як сьвятара, прысутнічаць на судзе ў Нью Брансьвіку ў травені сёлета.

Айцец Карп праслужыў для БАПЦ аддана й самаахвярна трынаццаць гадоў. Цэлых пяць гадоў а. Карп кожнае нядзелі прыяжджаў за 208 км у Нью Ёрк служыць багаслужбы. А ад 1974 году, як сам заснаваў парахвію, служыў у Дораты.

Парахвіі БАПЦ Сьвятой Тройцы ў Дораты пагражае закрыцьцё, а БАПЦ — страта маемасьці: храму й двух гэктараў зямлі.

## СЬВ. ✝ ПАМ.

### ДЗЬМІТРЫ СЯМЁНАЎ

29-га верасьня сёлета неспадзявана на 56-ым годзе жыцьця адыйшоў у вечнасьць сьв. пам. Дзьмітры Сямёнаў, асіраціўшы жонку Аляксандру, дачку Раіну ды беларускую калёнію ў Нью Брансьвіку.

Сьв. пам. Дзьмітры Сямёнаў нарадзіўся 11 чырвеня 1926 году ў Менску. Бацькі яго Аляксандар і Алёна з Турцэвічаў Сямёнавы былі эканамістамі з вышэйшай асьветай і працавалі ў менскіх гарадзкіх установах.

У часе 2-ой Сусьветнай вайны і нямецкай акупацыі Дзіма, як называлі яго бацькі й прыяцелі, вучыўся ў сярэдняй мэдычнай школе, а дзякуючы беззазаганнаму веданьню нямецкай мовы, працаваў перакладчыкам у Беларускім Краязнаўчым Музэі. Апынуўшыся на эміграцыі ў Нямеччыне, ён скончыў гімназію, а з часам, у Амэрыцы — палітычныя навукі на Ратгэрскім унівэрсытэце штату Нью Джэрзі.

Не зважаючы на слабое здароўе, асабліва ў вапошнія гады, Нябожчык працаваў да апошніх дзён ды ў меру магчымасьці браў удзел у беларускім грамадзкім жыцьці. Сям'я Сямёнавых ведамая й шанаваная за ейную ахвярнасьць і актыўнасьць і таму беларуская калёнія ў Нью Брансьвіку шчыра падзяляе сум сям'і у ейнай цяжкой страце.

На вечны супачынак Нябожчыка праводзіў на Беларускія могілкі ў Іст Брансьвіку а. Яноўскі з царквы Жыровіцкае Божае Маці.

### СЬВ. ПАМ. АРКАДЗЬ КАЧАН

З глыбокім сумам мы даведаліся неўзабаве да выхаду гэтага нумару газэты ,што ў Сыднэі ў Аўстраліі 3-га сьнежня нечакана памёр на 61-ым годзе жыцьця сьв. пам. Аркадзь Качан, вялікі беларускі патрыёт і грамадзкі дзеяч, кіраўнік Беларускае праграмы сыднэйскага Этнічнага радыё. Выказваем шчырае спачуваньне сям'і Нябожчыка й ягоным супрацоўнікам у іхным нязьмерным горы.

**Рэдкалегія „Беларуса"**

## ЗАКЛІК ДА ЎЛАДЫКАЎ БАПЦ

Беларуская парахвія сьв. Апосталаў Пятра й Паўла ў Адэляйдзе (Аўстралія) зьвярнулася 8 кастрычніка 1982 г. пісьмова з наступнымі прапановамі да Ўладыкаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы:

1. Неадкладна спыніць судовыя справы супраць Уладыкаў, сьвятароў, цэркваў і парахвіяў.
2. Пахрысьціянску памірыцца Высокапачэсным Уладыкам паміж сабою.
3. У выпадку канечнай патрэбы, склікаць у найбліжэйшым часе Сабор БАПЦ, у якім мусяць узяць удзел усе Ўладыкі, сьвятары й прадстаўнікі ўсіх парахвіяў БАПЦ бязь ніякіх выняткаў і абмежаваньняў.
4. Сабор БАПЦ мусіць разьвязаць непаладкі, што вытварыліся, і пастановы ягоныя канчатковыя.

Далей у закліку кажацца, што калі Ўладыкі і цяпер зыгнаруюць гэтыя прапановы, то ў сьнежні месяцы сёлета на агульнапарахвіяльным сходзе будзе пастаўленае пытаньне аб спыненьні платы кансысторскіх складак і належаньня да кансысторыі. Гэта значыць, што Ўладыка Андрэй можа згубіць парахвію сьв. Апосталаў Пятра й Паўла ў Аўстраліі, пастановы якое падтрымоўвае і Беларускае Аб'яднаньне ў Паўдзённай Аўстраліі ды адначасна заклікае ўсе парахвіі БАПЦ паслаць ультыматум-дамаганьне да Ўладыкі Андрэя і Ўладыкі Мікалая, каб у самым кароткім часе, і не пазьней як на працягу трох месяцаў, склікалі Сабор Беларускае Аўтакефальнае Царквы, чым толькі й можна ўратаваць яе ад развалу.

**Я. Ролсан,**
**Старшыня Беларускага Аб'еднаньня ў П.А.**

## БЕЛАРУСКАЕ АБ'ЕДНАНЬНЕ СТУДЭНТАЎ У ПОЛЬШЧЫ

У лістападзе летась у Варшаве паўстала Беларускае Аб'еднаньне Студэнтаў (БАС). Студэнты пачалі выдаваць свой інфармацыйны бюлетэнь — „Апошнія Паведамленьні" для нутранога ўжытку (тыраж: 100 экз.). У рэдкалегію бюлетэню ўвайшлі: Ёлянта Адамец, Мікалай Крупіцкі, Валянтына Леанюк, Ян Максымюк (заст. гал. рэд.), Ян Опалінскі, Андрэй Рубашэўскі, Крыстына Рыжык і Аўген Рыжык (галоўны рэдактар). Пакольні нам ведама, выйшлі два нумары „Апошніх Паведамленьняў" (№ 1, датаваны 16.XI.81, і № 2 — 25.XI.81). Іхны зьмест: весткі пра бягучыя культурныя падзеі й арганізацыйныя мерапрыёмствы БАС. У нумары 2-ім чытаем:

„**Статут БАС-а.** 21.XI.81 г. ў сыботу адбылося спатканьне студэнтаў-Беларусаў варшаўскіх вучылішч.

**Самаробны нагрудны значок сяброў Беларускага Аб'еднаньня Студэнтаў**

Пад кіраўніцтвам Яна Опалінскага была праведзеная бурлівая дыскусія над канчатковым выглядам статуту. Сход выбраў дэлегатаў, каторыя пойдуць з гэтым статутам у Рэктарат Варшаўскага Ўнівэрсытэту. Склад дэлегацыі: Ян Лемеш (II курс эканомікі — аддзел ВУ ў Беластоку), Ян Опалінскі (II курс права), Ян Максымюк (V курс фізыкі), і Яўген Рыжык (IV курс геаграфіі). На сходзе былі прысутныя студэнты: Варшаўскага Ўнівэрсытэту і яго аддзелу ў Беластоку, Варшаўскай Палітэхнікі, Мэдыцынскай Акадэміі, Галоўнай Школы Сельскае Гаспадаркі, ХАТ-у, ВАТ-у. СГПіС — сьпіць?!"

Рэдакцыя „Апошніх Паведамленьняў" прасіла сваіх чытачоў слаць інфармацыю і заўвагі на гэткі адрыс:

DS 2
Zwirki i Wigury 95/97, pokój 610
Warszawa

Думаем, что на гэты адрыс лісты да беларускіх студэнтаў у Варшаве, якія вельмі патрабуюць матар'яльнае дапамогі ў сувязі з эканамічнымі цяжкасьцямі ў Польшчы, дойдуць і з-за мяжы.

Як даходзілі на Захад весткі, Беларускае Аб'еднаньне Студэнтаў у Польшчы ў сувязі з абвешчаньнм там 13 сьнежня 1981 г. ваенным станам ня было афіцыйна прызнанае й зарэгістраванае, але спроба стварыць беларускую студэнцкую арганізацыю паказальная, яна сьветчыць пра зацікаўленасьць беларускае моладзі ў Польшчы справамі свае нацыянальнае культуры й грамадзкаю працаю.

**Я. З.**

## 90-ГОДЗЬДЗЕ ЗОСЬКІ ВЕРАС

**Зоська Верас сярод пісьменьнікаў і мастакоў, што прыбылі ў Вільню з Горадна й Менску на ейнае сьвята.**

Беларускай пісьменьніцы й культурна-грамадзкай ддзяячцы Зосьцы Верас (Людвіцы Сівіцкай, у замужжы Войцік) споўнілася ў верасьні сёлета 90 год жыцьця. Да Зоські Верас у Вільню, дзе яна жыве, прыехалі 30-го верасьня — у дзень ейных нарадзінаў — мастакі з Горадна (яна адтуль родам) і сябры-пісьменьнікі зь Менску: ад Акадэміі навукаў і ад Саюзу пісьменьнікаў. Прывітальны адрас ад пісьменьніцкае арганізацыі прывёз паэт Сяргей Панізьнік. На адрасе, выдрукаваным залатымі літарамі, былі подпісы больш як 50-ёх пісьменьнікаў і паэтаў.

Супрацоўніца газэты „Наша Ніва" й актывістка беларускага культурнага жыцьця тых часоў, аўтарка „Беларуска-польска - расейска - лацінскага батанічнага слоўніка" (Вільня, 1924), рэдактар-выдавец дзіцячага часапісу „Заранка" (Вільня, 1927-31), рэдактар часапісу „Беларуская Борць" (Вільня, 1934-38), аўтарка вершаў, апавяданьняў і папулярна-навуковых артыкулаў — Зоська Верас і дагэтуль не пакінула свае актыўнае зацікаўленасьці й карпатлівае працы на беларускай нацыянальна--культурнай ніве.

Да ўсіх тых добрых і шчырых зычэньняў, выказаных Зосьцы Верас ейнымі сябрамі, супраціўнікамі й прыхільнікамі на Бацькаўшчыне, далучае свае гэткія-ж шчырыя пажаданьні й газэта „Беларус".

## ЛЯВОН БАРАЗНА

„15-га жніўня 1972 г. Лявон Баразна трагічна загінуў. Жыцьцё яго абарвала бандыцкая рука. Мастак пайшоў ад нас у 43 гады, у росквіце сілаў і сьветлых надзеяў".

**Маладосьць, 1976, № 4.**

17 кастрычніка 1981 г. радыё „Свабода" перадало на Беларусь запісаны ў Ізраілі ўспамін 76-гадовага мастака Цфані Якаўлевіча Кіпніса пра Лявона Баразну й абставіны ягонае сьмерці. Ц. Кіпніс даўгі час працаваў у тэатрах, выдавецтвах і Мастацкім фоньдзе БССР. У лістападзе 1972 г. Кіпніс выяжджаў з Савецкага Саюзу ў Ізраіль, але ў Берасьці яго раптам арыштавалі, вярнулі ў Менск ды паўгода трымалі там у камэры-адзіночцы менскага КДБ, абвінавачваючы яго ў стварэньні нелегальнае антысавецкае арганізацыі. Пасьля нечакана спынілі сьледзтва й дазволілі пакінуць Савецкі Саюз. Цфаня Кіпніс расказваў пра Лявона Баразну:

* * *

Вось ужо скора 10 гадоў як не дае мне спакою памяць аб чалавеку, зь якім мы разам працавалі, сустракаліся, размаўлялі, а потым ён загінуў — загінуў — і зьгінуў зь беларускага мастацтва, бэццам і ня было яго. Быў чалавек — і няма чалавека.

Калі-б ён яшчэ працаваў у галіне жывапісу ці скульптуры — засталіся-б палотны зь яго подпісам, яго прозьвішча магло-б захавацца на пастамэньце якога-небудзь помніка. Але ён у асноўным займаўся прыкладным мастацтвам. Па яго эськізах працавалі выдатныя беларускія разьбяры, ткачыхі, ганчары. А на ручніку з народным арнамэнтам ці на керамічным кубку свайго-ж подпісу не паставіш...

Прозьвішча яго было Баразна, а імені я не памятаю, бо ў нас быў звычай зьвяртацца адзін да аднаго па прозьвішчу: „Здароў, Кіпніс!" — „Здароў, Баразна!"

Увесь вольны час ён прысьвячаў зьбіраньню беларускага фальклёру, цікавіўся старажытнымі мастацкімі вырабамі народных умельцаў, вучыўся ад іх у сваёй рабоце. Ён належаў да невялікай групы беларускай інтэлігенцыі, у якой падкрэсьлена гаварылі толькі пабеларуску, хадзілі ў кашулях, упрыгожаных нацыянальнай вышыўкай, і за гэта іншыя жартаўліва звалі іх „нацдэмамі". У тых умовах, у якіх існавала нацыянальнае мастацтва Беларусі, заставалася толькі жартаваць.

Баразна быў галоўным мастаком Беларускага мастацкага фонду, а я быў раней старшынём гэтага Фонду, а потым — радавым яго членам да таго дня, калі склікалі ўвесну 1972 году агульны сход, які павінен быў з гнеўным абурэньнем асудзіць мяне й выгнаць са сваіх радоў за маё жаданьне выехаць у Ізраіль.

Зразумела, што „абурэньне" было ўсеагульным, а галасаваньне — аднагалосным. Але калі ўсе ўжо разыходзіліся, пазьбягаючы зірнуць мне ў вочы, мяне спыніў Баразна:

— Мы мусім сур'ёзна пагутарыць. Давай, можа, сустрэнемся заўтра на стадыёне „Дынама" ўвечары?

— Чаму на стадыёне? — папытаўся я.

— Бо там можна сядзець спакойна на трыбунах і бачыць, што вакол цябе нікога няма.

Калі мы сустрэліся, Баразна сказаў:

— Я цябе добра разумею, бо і я таксама не на сваёй радзіме жыву, хоць і нарадзіўся ў беларускай вёсцы. Тут цяпер пануюць маскалі. Нават мова беларуская зьнікае, паўсюль Рускія.

— І Жыды? — пытаюся я. — Баразна толькі адмахнуўся:

— І мне, Беларусу, і табе, Яўрэю, аднолькава няма чаго тут рабіць. Я хачу ў Канаду — там больш беларускага, чым у БССР... Дык вось я й прашу — зрабі мне ласку: як прыедзеш у Ізраіль, дасылай мне запрашэньне! А я цераз Ізраіль у Канаду дабяруся: ёсьць у мяне там нехта. Я табе веру, Кіпніс, ты зробіш гэта.

На гэтым мы зь ім і разьвіталіся. А праз некалькі дзён — здаецца нават, на трэйці дзень пасьля нашай размовы яго забілі. Проста на вуліцы, сярод белага дня, нажом у сэрца.

Здарылася гэта на Інтэрнацыянальнай, каля кінатэатру „Перамога", гэта якіх дваццаць мэтраў ад міліцыі і сто мэтраў ад галоўнага будынку КДБ.

Забойцы не знайшлі, дый ніхто яго ня шукаў. Больш таго: ЦК КПБ забараніў правесьці грамадзянскую паніхіду — жалобны мітынг, звычайны ў гэткіх выпадках. Нават пахаваць Баразну ў Менску не дазволілі — адвезьлі й пахавалі яго на могілках у ягнай роднай вёсцы...

Хто забіў, за што забіў — нічога не вядома.

Быў чалавек — і няма чалавека.

**Ад Рэдакцыі:**

Пра Лявона Баразну — ні слова ані ў Беларускай Савецкай Энцыклапэдыі (2-гі том выйшаў у 1970 г.), ані ў пятым томе „Беларуская ССР. Кароткая Энцыкляпэдыя", у якім зьмешчаныя біяграфічныя даведкі (том вышаў у 1981 г.).

### ДАКЛАД ПРА БЕЛАРУСКУЮ ЛІТАРАТУРУ

Беларускі савецкі пісьменьнік літаратурны крытык Алесь Адамовіч, які прыехаў у Нью Ёрк у складзе дэлегацыі БССР на Генэральную Асамблею ААН, прачытаў у Ньюёркаўскім Гарадзкім Унівэрсытэце 26 кастрычніка сёлета лекцыю пра беларускую сучасную літаратуру. Дзеля таго, што бальшыня слухачоў разумела беларускую мову, на просьбу аўдыторыі, дакладчык гаварыў пабеларуску. Тэмай ягонага дакладу была ў васноўным ваенная (або, як казаў Алесь Адамовіч, „антываенная") тэматыка ў творчасьці беларускіх пісьменьнікаў.

Па дакладзе задаваліся пытаньні лектару: пра кірункі далейшага разьвіцьця літаратуры, русыфікацыю школьніцтва, малыя тыражы беларускамоўных выданьняў. Завязаліся пэўныя спрэчкі вакол гэтых пытаньняў. Некаторых нястачаў у гэтых галінах дакладчык не адмаўляў і прызнаваў патрэбу большае дбайлівасьці Беларусаў пра свае культурныя вартасьці. Але падчыркваў ён і бясспрэчныя дасягненьні ў галіне беларускае культуры. Між іншага, дакладчык адзначыў наяўнасьць па гарадох сучаснае Беларусі г. зв. „адваротнага працэсу" — часткавага звароту беларускае інтэлігенцыі да свае нацыянальнае мовы.

Былі паказаныя два фільмы студыі „Беларусьфільм": пра Якуба Коласа (агучаны пабеларуску, але з расейскімі тытрамі) і пра Савецкую Беларусь (паангельску, таксама з расейскімі тытрамі).

На вечар прадстаўнікі беларускае місіі пры ААН, што суправаджалі Алеся Адамовіча (трох) і займаліся паказам фільмаў, прынесьлі таксама выданую паангельску літаратуру пра Беларусь.

**У часапісе Беларускіх Вэтэранаў „Зважай" № 4(28) за лістапад 1982 г. зьмешчаныя артыкулы:** К. Акула — „Веліч і нікчэмнасьць"; В. Сянькевіч — „Сорак гадоў творчай працы" (пра літаратурную творчасьць К. Акулы); ВС/УЦ — „Праблемы савецкай арміі"; „Гішпанія і НАТО"; ЮС/ЛМ — „Хто кіруе ў нацыянальных рэспубліках"; В. Сянькевіч — „Бандытызм ці антыбальшавіцкі супраціў"; хроніка. Нумар ілюстраваны.

